# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 20 (749) ● 27 мая 1994 г. ● Цана 25 руб.


## У ЛАБАРАТОРЫЯХ АНБ

# Для аптэкі і кухні

Дазвольце адно пытанне: што агульнага паміж вогнетушыцелем і... цукеркай? Ніколі не здагадаецеся. І не падумайце, што яно, гэтае пытанне, з цыкла загадак слыннага армянскага радыё. Ніколькі не бывала. Пытанне сур'ёзнае.

Адказ жа на яго зусім адназначны. І ў начынні вогнетушыцеля, і сярод кампанентаў цукеркі (вядома не кожнай, толькі асобных гатункаў — лакрычных) змяшчаецца салодка, лакрыца. Расліна такая.

Лакрычныя цукеркі мала хто не ведае. Яны пругкія, гнуткія, нібы гума. Аднак салодка — сыравіна не адно для кандытарскай прамысловасці. Яна і выдатны пенаўтваральны сродак, а пена, выпушчаная на палаючае вогнішча пажару, хутчэй за штосьці іншае душыць яго.

Пра гэта я даведаўся ад загадчыцы лабараторыі мабілізацыі раслінных рэсурсаў Цэнтральнага батанічнага саду Акадэміі навук Лідзіі Васільеўны Кухаравай, якая зрабіла салодку прадметам сваёй кандыдацкай дысертацыі. Нягледзячы на гэта, Лідзія Кухарава — батанік, гэтак мовіць, шырокага профілю і гатова з заплюшчанымі вачыма даць характарыстыку любога з тых амаль 1000 відаў раслін, што знаходзяцца ў калекцыі лабараторыі.

— Лідзія Васільеўна, як раскадзіраваць да ступені агульнадаступнага «мабілізацыя раслінных рэсурсаў»?

— Гэта значыць — інтрадукцыя (інакш кажучы, увод з дзікарослага стану ў культуру), вывучэнне біялагічных асаблівасцей і адаптацыйных (прыстасавальных) магчымасцей карысных травяністых раслін з групы воструводарных, лекавых і кармавых. Такім чынам, у найменні лабараторыі коратка сфармулявана яе галоўная задача.

— У адной з размоў я пачуў іншае найменне лабараторыі: лекавых раслін...

— Не выключана, што яна будзе перайменавана. Пакуль што старая шыльда яшчэ вісіць. У рэшце рэшт справа ў змесце працы, у яе выніках і менш за ўсё ў шыльдзе. Дык вось, акрамя вырашэння галоўнай задачы, мы займаемся яшчэ і выданнем Індэксу насення, свайго роду даведніка, куды ўносіцца звесткі пра ўсе расліны нашага профілю. Для гэтага мы абменьваемся інфармацыяй з усімі батанічнымі садамі (а іх больш за 300) і навукова-даследчымі ўстановамі свету.

— Прабачце маю батанічную малапісьменнасць, калі пытанне падасца вам некарэктным, але журналісцкая цікаўнасць вымагае задаць яго: ці можна сказаць, што праз большы або меншы час дзікарослыя расліны высілкамі навукоўцаў, а следам і вытворцаў будуць нарэшце інтрадуцыраваныя?

Лідзія Васільеўна пасміхаецца — пытанне сапраўды наіўнае.

— Гэта практычна немагчыма ды і немэтазгодна. Флора толькі Беларусі налічвае прыблізна 1840 відаў тых раслін, пра якія мы гутарым. Ва ўсім свеце ўведзена ў культуру толькі 3—5 працэнтаў. Вядома, навукоўцы не спыняюць даследаванні ўсё новых і новых відаў дзікарослай расліннасці з мэтай іх акультурвання і выкарыстання для патрэб чалавека. Але інтрадукцыя — працэс паступовы, павольны.

— На прыкладзе вашага падраздзялення якой статыстыкай гэта пацвярджаецца?

— Праз мае рукі (і маіх памочнікаў таксама) прайшло 3795 відаў. 20 шырока ўкараняюцца ў вытворчасць. Як у харчовую, так і ў фармацэўтычную. Асаблівае пашырэнне пры гэтым атрымалі воструводарныя і лекавыя травы. Такія, як меліса, лафант, жэньшэнь, ісоп і іншыя. Ісоп, скажам, добры для лячэння астмы, мае бактэрыцыдныя ўласцівасці, лафант — ачышчае кроў ад шкодных прымесей.

На падставе траў распрацавана больш як 30 кампазіцый чайных напіткаў. Ледзь не поўнасцю заменены імпартныя прыправы ў мясамалочнай вытворчасці, у прыватнасці, пры вырабе каўбас.

— Я разумею, што батанічны сад — адзіная ўстанова, якая займаецца інтрадукцыяй дзякуючы выпуску Індэксу насення і ўкараненню вынікаў вашай работы ў вытворчую практыку.

— Вы недалёкія ад рэальнасці. Трэба толькі дадаць, што прасоўванне нашых распрацовак у жыццё не магло б быць паспяховым, калі б не калгасы і саўгасы, што культывуюць лекавыя, воструводарныя расліны. І, бясспрэчна, нельга не назваць нашых саюзнікаў і суаўтараў, з якімі мы пастаянна супрацоўнічаем: Белаграфарміндустрыя і Белхарчпрамтэхніка.

— Гаспадаркі, якія займаюцца вырошчваннем воструводарных, лекавых культур, робяць гэта, як кажуць, між іншым або спецыялізуюцца на пастаўцы той жа сыравіны для харчовай, скажам, прамысловасці?

— Спецыялізаваныя гаспадаркі ёсць, хаця і іншыя культывуюць названыя травы. Так, калгас «Зара» Баранавіцкага раёна выпускае прыправу да мясных страў, у якую ўваходзяць каляндра, меліса, мацярдушка, базілік, кроп, соль у прапорцыях, рэкамендаваных нашай лабараторыяй і работнікамі Белхарчпрамтэхнікі. Калгас «Ясная зара» Сенненскага раёна робіць чайныя напіткі «Какоўчынскі», «Ясная зара», «Сенненскі» і г. д. таксама па нашых сумесных рэцэптах. У складзе, скажам, «Мятнага» напітку — лісце мяты і чорны байхавы чай. А вось кампаненты напітку «Лясны водар»: травы мацярдушкі і чабору, корань дзьмухаўцу, лісце маліны і ліпавы цвет. Як бачыце, тут наогул гарбаты няма. Але ад гэтага напітак не стаў менш карысным для здароўя і смачным.

— Ці ўсё гладка ў вашым такім патрэбным для людзей супрацоўніцтве? Вашы добрыя стасункі і вашы супрацьстаянні з калегамі?

— Усякае бывае. У асноўным наша супрацоўніцтва плённае. Аднак часам азмрочваюць не зусім карэктныя крокі другога боку.

— А ці не маглі б вы самі...

— Наладзіць сваю вытворчасць? Няма вытворчай базы. Няма і людзей для гэтага. Нават на дзялкі з раслінамі батанічнага саду няма каму хадзіць, акрамя навуковых супрацоўнікаў лабараторыі. Самі на чале з загадчыцай — матыкі ў рукі і — уперад.

— Вам, Лідзія Васільеўна, прысвоена званне «Вынаходнік СССР». За што?

— Ні завошта яго, самі разумееце, не даюць. У мяне 14 аўтарскіх пасведчанняў. Смешна сказаць, але ўсе яны за абагачэнне біялагічна каштоўнымі расліннымі рэчывамі лікёра-гарэлачных вырабаў, хаця аматарам апошніх мяне не назавеш. Грымасы жыцця.

* * *

Наша гутарка працягвалася менш гадзіны.

— Мяне нельга затрымліваць надоўга,— папярэдзіла яна адразу. На гэты раз я зразумеў яе з паўслова. Бо з першага майго заходу не давялося нават раскрыць блакнот. Яна не здолела ўдзяліць мне ні хвілінкі, хаця сама прызначыла час сустрэчы. Прыкра — нечакана наклюнулася работка: ёй з двума-трыма супрацоўнікамі спешна трэба было выкопваць нейкія саджанцы, ды яшчэ на хаду прымаць ганцоў ці то з Пухавіцкага, ці то з Чэрвеньскага раёна. І гэтым ранкам зноў былі ў яе кабінеце людзі з наблізкіх месц. Але, відаць, абставіны прывычылі яе гутарыць нешматслоўна, ды ёміста. І ўсяго, што паспела сказаць Лідзія Васільеўна за кароткі час гутаркі, я і не перанёс на паперу: газетныя рамкі цеснаватыя. Пра гэта можна пашкадаваць.

Толькі не пра сустрэчу з цікавым чалавекам.

Інтэрв'ю ўзяў
Р. ЛЕВІН.

## СПІКЕР УРУЧАЕ ЗНАКІ АДЗНАКІ

**Гэтымі днямі старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслаў Грыб уручыў нагрудныя знакі заслужанага дзеяча навукі рэспублікі Ганароваму прэзідэнту АНБ акадэміку Мікалаю Барысевічу і члену-карэспандэнту АНБ Віктару Шабайлаву, якім гэтае званне прысвоена за вялікі ўклад у айчынную навуку.**

**Р. АЛЬДАЎ.**

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

*З другога паўгоддзя 1994 года цана нашай газеты павысіцца да 60 рублёў за экз. Але ўсё роўна яна застаецца самай таннай па кошту, хаця, спадзяёмся, не па зместу.*

*ПАДПІШЫЦЕСЯ НА «НАВІНЫ АНБ» І ПЕРАКАНАЕЦЕСЯ У ГЭТЫМ САМІ. ПАДПІСКА ВА УСІХ АДДЗЯЛЕННЯХ СУВЯЗІ. ТЭРМІН ЯЕ ДА 15 ЧЭРВЕНЯ.*

*Кошт паўгадавой падпіскі — 1620 рублёў.*

*Наш індэкс — 64123.*

# ЗВАРОТ ініцыятыўнай групы па стварэнню грамадскага камітэта «ЗА РОЎНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ»

Паважаныя суайчыннікі, грамадзяне незалежнай Беларусі!

Мы звяртаемся да вас у пераломны момант гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Беларусь стаіць напярэдадні выбараў свайго першага прэзідэнта. Ад выхаду гэтых выбараў, без перабольшвання, залежыць будучыня Беларусі і існаванне самой беларускай дзяржавы. Нас усіх павінен аб'ядноўваць адзіны сыноўскі і грамадзянскі абавязак — зрабіць Беларусь квітнеючай еўрапейскай краінай, заваяваць для яе павагу і прызнанне сусветнага супольніцтва.

Мы перакананы ў тым, што першы беларускі прэзідэнт павінен быць прэзідэнтам для кожнага беларуса і для ўсяго народа Беларусі. Каб гэта спраўдзілася, ён павінен мець давер і падтрымку сярод людзей. Такім можа быць толькі ўсенародна абраны прэзідэнт. Выбарчая кампанія, што разгарнулася сёння ў рэспубліцы, безумоўна, стане прынцыповым выпрабаваннем маладой беларускай дзяржавы на дэмакратычную годнасць, на моц палітычнай волі ісці ў накірунку да цывілізаванага грамадства, шанаваць неад'емныя свабоды і правы чалавека. Выбары — гэта таксама і шанц для хутчэйшай інтэграцыі Беларусі ў адзіную Еўропу і сусветную супольнасць.

Заклапочаныя лёсам дэмакратыі на Беларусі, захаваннем і ўсямерным узмацненнем дзяржаўнага суверэнітэту, мы, члены ініцыятыўнай групы, заяўляем сёння аб стварэнні грамадскага камітэта «За роўныя магчымасці». Мы кіруемся не чым іншым, як уласным пачуццём грамадскага абавязку і жаданнем паслужыць на карысць Бацькаўшчыне. Мы належым да розных прафесій і занятках, але адзіныя ў тым, што стаім па-над партыйнымі, групавымі інтарэсамі і што для нас не існуе падзелу людзей па рэлігійных, нацыянальных ці іншых прыкметах. Наша перакананне ў тым, што толькі беларускі народ сваёй воляй, без усякага націску звонку, павінен вызначыць сваю будучыню.

Галоўную мэту нашай сумеснай ініцыятывы мы бачым у максімальным садзейнічанні таму, каб першыя прэзідэнцкія выбары на Беларусі сталі сапраўды дэмакратычнымі і іх вынікі былі прызнаны міжнароднай супольнасцю. Мы будзем прыкладаць намаганні, каб усе кандыдаты на пасаду прэзідэнта Беларусі і іх каманды мелі роўныя магчымасці выкласці свае праграмы перад выбаршчыкамі, роўны доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Мы выступаем за чэсную канкурэнцыю адказных палітыкаў, якія паважаюць адзін аднаго і ўсіх людзей. Мы адстойваем прынцып адкрытасці выбараў, у тым ліку і прыцягненне ў рамках вызначаных міжнародных працэдур і норм замежных назіральнікаў на ўсіх этапах іх правядзення. Камітэт мае намер наладзіць рэгулярнае інфармаванне шырокай грамадскасці Беларусі, блізкага і далёкага замежжа аб ходзе выбарчай кампаніі. Адну са сваіх непасрэдных задач мы бачым у зборы і абнародаванні інфармацыі аб парушэннях Закону аб выбарах, дэмакратычных норм, свабоды друку і слова і паіменнае выкрыццё тых, хто стаіць за гэтымі парушэннямі. Мы спадзяёмся, што дзейнасць камітэта паслужыць яшчэ адной гарантыяй супраць вяртання ў часы таталітарызму і адміністратыўнай сістэмы.

Мы звяртаемся да Цэнтральнай выбарчай камісіі з просьбай аб аказанні нам усямернага садзейнічання.

Мы таксама дасылаем свой зварот у Савет Еўропы, Еўрапарламент, Еўрапейскую камісію, СБСЕ, Міжпарламенцкую асамблею СНД, нацыянальныя парламенцкія і грамадскія арганізацыі краін — удзельніц Хельсінкскага працэсу з прапановай аб супрацоўніцтве і абмене інфармацыяй. Мы асабліва спадзяёмся на падтрымку з боку нашых бліжэйшых суседзяў і традыцыйных партнёраў — Расіі, Польшчы, краін Балтыі, якія ўжо прайшлі праз выпрабаванні дэмакратычных выбараў.

Мы заклікаем беларускую грамадскасць падтрымаць гэты зварот і далучыцца да нашай ініцыятывы.

**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**акадэмік, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету;**
**Уладзімір ГРЫБАНАЎ,**
**дэпутат Рэспублікі Беларусь;**
**Анатоль МАЙСЕНЯ,**
**прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад»;**
**Уладзімір НОВІК,**
**дэпутат Рэспублікі Беларусь;**
**Аляксандр САСНОЎ,**
**дэпутат Рэспублікі Беларусь;**
**Міхаіл СЛЯМНЁЎ,**
**дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;**
**Іван ЧЫГРЫНАЎ,**
**народны пісьменнік, старшыня Беларускага фонду культуры;**
**Васіль ШАРАНГОВІЧ,**
**рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, прафесар.**

## У РЭСПУБЛІКАНСКІМ КАМІТЭЦЕ ГАЛІНОВАГА ПРАФСАЮЗА

# Адпачынак без захоўвання зарплаты

**Бюро прэзідыума АН Беларусі 21 сёлетняга красавіка прыняло пастанову аб прадастаўленні ўсім супрацоўнікам прэзідыума адпачынку без захоўвання заработнай платы з 1 па 15 мая 1994 г. і рэкамендавала кіраўнікам устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў акадэміі на справе разглядаць гэтую меру па ўзгадненню з калектывамі.**

**РКП работнікаў АНБ вытлумачвае, што згодна з артыкулам 76 КЗаП Рэспублікі Беларусь адпачынак без захоўвання заработнай платы даецца работніку толькі паводле ягонай просьбы ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам або калектыўным дагаворам.**

**Спыненне фінансавання для дзейнасці ўстановы, арганізацыі, прадпрыемства прыраўноўваецца да прастою не па віне работніка. Згодна з артыкулам 91 КЗаП Рэспублікі Беларусь у такім выпадку работніку выплачваецца не ніжэй двух трэціх тарыфнай стаўкі (акладу).**

**Прымусовая адпраўка работніка ў адпачынак без захоўвання заработнай платы ў сувязі са збоямі ў фінансаванні ёсць парушэнне працоўнага заканадаўства (арт. 15, 18 КЗаП РБ).**

**Пытанне аб прадастаўленні неаплачанага адпачынку вырашаецца толькі паміж наймальнікам і работнікам, але не працоўным калектывам, не прафкамам большасцю галасоў. Пры гэтым абмеркаванне пытання на сходзе або пасяджэнні прафкама не забаронена.**

**Бывае, што з-за адсутнасці фінансавых сродкаў арганізацыя можа быць прызнана неплацежаздольнай або банкрутам з наступнай ліквідацыяй. У такіх выпадках для забеспячэння выплат належачай работнікам заработнай платы, а таксама прадугледжаных заканадаўствам, калектыўным і працоўным дагаворамі гарантыйных і кампенсацыйных выплат пры банкруцтве або неплацежаздольнасці наймальніка, ліквідацыі прадпрыемства, спынення дзейнасці прадпрымальніка і ў іншых падобных абставінах, вынікаючых з заканадаўства, наймальнікі абавязаны ствараць рэзервовы фонд заработнай платы на падставах, у памеры і парадку, абумоўленых калектыўнымі дагаворамі, пагадненнямі. Выкарыстанне гэтага фонду на іншыя мэты дазваляецца адно па ўзгадненню з працоўным калектывам (арт. $97^{1}$ КЗаП РБ).**

# ЛАН — асацыяцыя асацыяцый

## НА ШЛЯХАХ ІНТЭГРАЦЫІ

Тэхнічны ўзровень сучасных машын расце разам з ускладненнем іх канструкцый і больш жорсткімі патрабаваннямі да рэжымаў нагрузкі. Вось чаму ў апошнія дзесяцігоддзе ў лік першасна важных выйшла навукова-тэхнічная праблема прагназіравання і забеспячэння надзейнасці машын, іх сістэм, дэталей, элементаў. І, нягледзячы на агульны спад у эканоміцы краін СНД, цяжкасці з фінансаваннем навукова-даследчых работ, увага да распрацоўкі гэтай праблемы ў Расіі, Беларусі, на Украіне, як і ў прамыслова развітых краінах, не слабне, а ўзрастае.

У Расійскай Акадэміі навук (РАН) гэтая тэматыка даследаванняў займае ўсё большае месца ў спецыялізацыі галоўнага яе інстытута тэхнічнага профілю — Інстытута машынаназнаўства. Ужо ў 1991—92 г. былі створаны спецыялізаваныя філіялы гэтага інстытута, пераўтвораныя пазней у самастойныя інстытуты надзейнасці тэхнічных вырабаў у найбуйнейшых прамысловых цэнтрах Расіі — Санкт-Пецярбургу, Самары, Екацярынбургу, Саратаве. Распрацавана і выконваецца навукова-тэхнічная праграма з мэтай знаходжання эфектыўных шляхоў павышэння надзейнасці і бяспекі машын і інжынерных збудаванняў. Створана Міжнародная асацыяцыя «Надзейнасць машын і канструкцый». Выпускаецца спецыялізаваны часопіс РАН «Проблемы машиностроения и надежности машин».

У Беларусі да гэтай праблемы заўсёды ставіліся з разуменнем. У 1971 г. у нашай рэспубліцы, упершыню ў сусветнай практыцы, у складзе Акадэміі навук быў створаны Інстытут надзейнасці машын (Індмаш), і разгарнулася выкананне па пяцігодках комплексных праграм павышэння надзейнасці вырабаў. Да выканання гэтых праграм было прыцягнуты практычна ўсе вядучыя машынабудаўнічыя прадпрыемствы, НДІ і вну рэспублікі тэхнічнага профілю.

У выніку тэхнічныя характарыстыкі і паказчыкі надзейнасці вырабаў беларускага машынабудавання былі значна палепшаны, сталі найвышэйшымі для краін СНД (у цяперашнім вызначэнні) і наблізіліся да сусветных узораў. Так, мотарэсурс трактараў «Беларусь» за 20 гадоў узняўся ад 4 да 9 тысяч мотагадзін, хадзімасць асноўных вузлоў аўтамабіляў МАЗ узрасла да 600 тысяч км і болей, на 10—12 працэнтаў павялічыліся тэрміны службы металаапрацоўчых станкоў.

Дасягнутыя паказчыкі і сёння, пры разрыве многіх эканамічных сувязей, забяспечваюць высокую канкурэнтаздольнасць вырабаў прамысловасці рэспублікі ў краінах СНД, з цяжкасцю, але дазваляюць захоўваць некаторыя пазіцыі на сусветным рынку.

З-за дзікунскіх тэмпаў росту цэн на сыравіну, энерганосьбіты, камплектуючыя, з-за інфляцыі і большай канкурэнцыі з раней блізкімі прадпрыемствамі ў краінах СНД дасягнуты ўзровень канкурэнтаздольнасці можна вельмі хутка звесці на нішто: калі пастаянна і планамерна не забяспечваць апераджальны рост паказчыкаў якасці і надзейнасці вырабаў. Гэтыя задачы часткова адлюстраваны ў заданнях комплекснай рэспубліканскай навукова-тэхнічнай праграмы «Машынабудаванне».

Аднак патрабуецца большае — аб'яднанне намаганняў спецыялістаў краін садружнасці, асабліва Расіі, Беларусі і Украіны, пастаяннае супрацоўніцтва, узаемны кантроль, абмен вынікамі па сумесна выконваемых заданнях навукова-тэхнічных праграм, іх карэкціроўка, дапаўненні і ўдакладненні.

Зыходзячы з меркаванняў неабходнасці каардынацыі і аб'яднання навуковых сіл пры развіцці даследаванняў па прыярытэтных напрамках навукі аб надзейнасці машын, удзельнікі Асацыяцыі вучоных і інжынераў Расіі, Беларусі і Украіны прынялі пагадненне, згодна з якім:

1. Засноўваецца Ліга Асацыяцый надзейнасці (ЛАН) тэхнічных вырабаў Расіі, Беларусі і Украіны ў складзе: ад Расіі — Міжнародная асацыяцыя «Надзейнасць машын і канструкцый» пры Інстытуце машынаназнаўства РАН (дырэктар асацыяцыі член-карэспандэнт РАН А. П. Гусянкоў); ад Беларусі — Асацыяцыя «Надзейнасць машын і тэхнічных сістэм» пры Індмашы (старшыня асацыяцыі член-карэспандэнт АНБ А. В. Берастнеў); ад Украіны — Асацыяцыя «Надзейнасць машын і збудаванняў пры Інстытуце трываласці АН Украіны (прэзідэнт асацыяцыі акадэмік АНУ В. Т. Трошчанка).

2. Прыняты ў якасці першачарговых задач ЛАН:

— аб'яднанне і каардынацыя намаганняў вучоных і інжынераў у галіне надзейнасці машын;

— аказанне пасрэдніцкіх паслуг па абмену і ўкараненню дасягненняў, а таксама камерцыйнай дзейнасці асацыяцый Расіі і Беларусі на Украіне, Расіі і Украіны ў Беларусі, Украіны і Беларусі ў Расіі, з выкарыстаннем па ўзаемнай згодзе рахункаў кожнай з асацыяцый;

— распрацоўка прапаноў па перспектыўных кірунках кожнай з асацыяцый для навукова-тэхнічных праграм Расіі, Беларусі і Украіны;

— абмен навуковымі кадрамі і вопытам работы ў розных галінах і сферах надзейнасці;

— каардынацыя работ па стандартызацыі ў галіне надзейнасці тэхнікі, сумесная распрацоўка адпаведных міждзяржаўных і нацыянальных стандартаў;

— уніфікацыя падыходаў і методык сертыфікацыі вырабаў па паказчыках трываласці і надзейнасці;

— правядзенне сумесных канферэнцый, сімпозіумаў, семінараў, выдавецкай дзейнасці;

— распрацоўка і рэалізацыя дзяржаўных і міждзяржаўных праектаў у рамках СНД, у тым ліку з інвестарамі з далёкага замежжа.

3. Для ажыццяўлення арганізацыйнай дзейнасці ЛАН створаны яе прэзідыум, які ўключае старшынь і іх намеснікаў у асацыяцыях кожнай з краін.

Каардынацыйныя сустрэчы для ўзгаднення і абмеркавання вынікаў выканання сумесных праграм прадугледжана праводзіць штогод чаргова ў кожнай з асацыяцый. У якасці галоўнага каардынацыйнага цэнтра ЛАН вызначаны Інстытут машыназнаўства РАН.

Работа, што выконваецца супрацоўнікамі Індмаша і Навуковага цэнтра механікі машын АНБ па ўдакладненню і пашырэнню заданняў Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай праграмы «Машынабудаванне», дазволіць напоўніць больш канкрэтным зместам многія з прынятых рэкамендацый, а таксама выкарыстаць вопыт па фарміраванню і выкананню падобных праграм Расіі і Украіны.

**А. БЕРАСТНЕЎ,**
**дырэктар Інстытута надзейнасці машын, член-карэспандэнт АНБ.**

# ЦЯЖКІ ПОСТУП СНІДа

**У Іспаніі захворванне на СНІД за апошні год павялічылася больш як на 50 працэнтаў, і афіцыйныя ўлады занепакоены тым, што хвароба ў краіне пашыраецца хутчэй як дзе-небудзь.**

**З 1981 г. па верасень 1992 г. на СНІД у Іспаніі захварэлі 15678 чалавек, а з 1991 г.— 5577 чалавек. Даныя пра носьбітаў вірусу СНІДа не паведамляюцца.**

**Каля дзвюх трэціх хворых на СНІД складаюць наркаманы, шасцёра з кожных 10 хворых заразіліся ў выніку гетэрасексуальных кантактаў.**

**Летась у краіне на прафілактыку і лячэнне СНІДа мелася выдзеліць 28 мільярдаў песет (280 мільёнаў долараў).**

**«РЭЙТАР»**

* * *

Камісія экспертаў Нацыянальных інстытутаў аховы здароўя — федэральнага органа па забеспячэнню кантролю над медыцынскімі даследаваннямі — адобрыла эксперыментальны метад лячэння СНІДа.

Гэты метад, распрацаваны спецыялістамі Цэнтра імя Фрэда Хатчынсана пры Універсітэце штата Вашынгтон (Сіэтл), прадугледжвае ўзяцце ў інфіцыраваных ВІЧ «антывірусных» клетак, вырошчванне іх у культуры ў лабараторных умовах і затым увядзенне хворым для нейтралізацыі ВІЧ.

«Антывірусныя» клеткі (лімфацыты СД8), якія маюцца ў імуннай сістэме чалавека, распазнаюць і забіваюць інфіцыраваныя клеткі.

Такі метад лячэння ў бліжэйшы час намячаецца правесці на 15 хворых СНІДам.

**«ФРАНС ПРЭС»**

## АКАДЭМІЧНАЯ НАВУКА Ў АСОБАХ



*Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі (ІАНХ) АНБ кандыдат хімічных навук* ***Ілля Пятровіч ЛЮБЛІНЕР.*** *Разам з калегамі па лабараторыі рэакцыйна-актыўных валокнаў і плёнак, якую ўзначальвае Вячаслаў Уладзіміравіч Тайгень, ён браў удзел у стварэнні абноўленай тэхналогіі вытворчасці беларускага алею з рапсу.*

*Як апавядалася ўжо ў нашай газеце («Навіны Акадэміі навук Беларусі» № 5 за 11.02.94 г.), навукоўцам трэба было знайсці замену глінам-адсарбентам, якія завозіліся з-за мяжы і служылі ачышчальнікам алею. Навуковы пошук увянчаўся поспехам. У выніку даследаванняў выявілася, што дэфіцытныя гліны могуць быць заменены вугляродна-валакністым сарбентам — бусафітам, які ў прамысловых маштабах выпускаецца на Светлагорскім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно» па тэхналогіі ІАНХ.*

*Будзем чакаць айчыннага алею, спадзяёмся, не горшага за любы іншы.*

**Фота М. БУДЧАНІНА.**

# Рэлікт і сімвал Белавежы ў небяспецы

Няцяжка здагадацца, што размова пойдзе пра зубра. У другім выданні «Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь» ён аднесены да 5-й катэгорыі рэдкіх відаў, да якой належаць віды, стан якіх дзякуючы прынятым захадам не выклікае больш апаскі. Больш таго, збіраліся наогул не ўключаць гэты від у Чырвоную кнігу. Аказалася ж, што зубр знаходзіцца пад пагрозай знікнення. І, магчыма, неўзабаве будзе разглядацца як від 1-й або 2-й катэгорыі. Гэта азначае, што выратаванне яго немагчыма без ажыццяўлення спецыяльных захадаў.

У чым тут справа? У апошнія гады ў Белавежы стабільна заўважаецца паражэнне мочапалавой сістэмы і страта рэпрадукцыйных функцый у зуброў-самцоў. Зубр смяротна хварэе. Пры клінічным аглядзе навукоўцы ўстанавілі, што хвароба спасцігае жывёлін рознага ўзросту, нават цялят бягучага года нараджэння. Пачалі, такім чынам, праяўляцца наступствы блізкароднаснага скрыжавання зуброў.

Праект «Захоўванне біялагічнай разнастайнасці лясоў», фінансуемы Сусветным банкам, пра які мы паведамлялі ўжо («Навіны АНБ» № 6, 1994), прадугледжвае колькі навукова-даследчых тэм, прысвечаных вывучэнню і паратунку зубра.

Гэта будзе глыбокі аналіз эколага-эталагічных, марфалагічных асаблівасцей папуляцыі зуброў у Беларусі, клініка-эпізаатычнага стану статка. Асноўная мэта — спазнаць этыялогію, патагенез захворвання зуброў з паражэннем генітальных органаў, шляхі і тэрміны перадачы інфекцыі ад хворых жывёлін да здаровых, распрацаваць і правесці супрацьэпізаатычныя мерапрыемствы, што азначае прафілактыку і аздараўленне жывёлы. Да даследаванняў падключаны ўжо спецыялісты Беларускага НДІ эксперыментальнай ветэрынарыі, Інстытута заалогіі АНБ, навуковых аддзелаў Нацыянальнага парку «Белавежская пушча», Бярэзінскага біясфернага і Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведнікаў.

Навукоўцы адзначаюць, што ў апошні час назіраецца тэндэнцыя да змяншэння пагалоўя. Адбываюцца значныя змены ў абмене рэчываў і стане імуннай сістэмы жывёлін. Бактэрыялагічныя і вірусалагічныя даследаванні выявілі ўзбуджальнікаў інфекцыйных хвароб. Шэраг іх прыводзіць да таго, што зубры не здольны ўзнаўляць патомства, а, прахварэўшы некаторы час, канаюць, не дажыўшы да гранічнага ўзросту — 20—25 гадоў.

Працягламу захоўванню натуральных папуляцый розных прадстаўнікоў фауны, асабліва тых, што жывуць на абмежаваных запаведных тэрыторыях, садзейнічае іх дастаткова высокая генетычная зменлівасць, якая забяспечваецца вялікай колькасцю жывёлы. У небуйных жа папуляцыях асабліва небяспечна страта часткі генаў з-за непазбежных роднасных спараванняў. Як устаноўлена, даследаваныя жывёліны характарызуюцца высокай, амаль абсалютнай, гомазіготнасцю, гэта значыць храмасомным наборам аднародных формаў. Прычынай гэтага можа быць дзеянне натуральна-штучнага адбору, скіраванага на элімінацыю (выключэнне) асобін з іншымі тыпамі бялкоў з-за малалікасці зыходнай папуляцыі вывучаемых у Белавежы жывёлін і абмежаванняў у міграцыйных працэсах. Падобная сітуацыя не можа не весці да пастаянных роднасных спараванняў на працягу доўгага часу. І калі гомазіготнасць зуброў — вынік працяглага замкнёнага развядзення, у тым ліку блізкароднаснай злучкі, дык такое абавязкова будзе суправаджацца прыкметамі інбрэднай дэпрэсіі (упадку з нагоды блізкароднаснага спаравання). Яна праяўляецца ў здрабненні патомства, зніжэнні пладавітасці, з'яўленні арганізмаў са спадчыннымі анамаліямі, аслабленні хваробаўстойлівасці і г. д.

Цікава прасачыць перадгісторыю таго, што здарылася. У 1857 г. у Белавежы налічвалася амаль 1900 зуброў. Бязлітасныя паляванні звялі статак да нуля. Апошні зубр быў забіты ў 1919 г. Падчас першай сусветнай вайны тэрыторыя пушчы была занята кайзераўскімі салдатамі. Захопнікі нанеслі ёй велізарны ўрон. Зуброў, што не былі знішчаны, вывезлі ў Германію. Пад гэты час была знішчана большасць статкаў зубра і па-за пушчай. Узнікла пагроза вынішчэння на планеце гэтага віду. Да 1926 г. на зямным шары засталося ўсяго 52 чыстакроўныя зубры і адно ў заапарках. На Міжнародным з'ездзе па ахове прыроды ў 1923 г. было ўтворана Міжнароднае таварыства па захоўванню зубра, якое зрабіла першыя крокі для аднаўлення

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

# ПРЫРОДА І МЫ

## ЭКАЛАГІЧНЫ ВЫПУСК № 4

## Здароўе шукаць не ў таблетках, а ў прыродзе

НА 80 ПРАЦЭНТАЎ здароўе чалавека залежыць ад ладу яго жыцця (культура паводзін, культура харчавання) і ад стану навакольнага асяроддзя. Палітыка бескантрольнага, антынавуковага ўмяшання ў прыроду прывяла да цяжкага, неспрыяльнага экалагічнага становішча, якое ў нашай рэспубліцы стала катастрафічным пасля аварыі на ЧАЭС. Аднак дзяржава па-ранейшаму працягвае ўкладаць немалыя грошы ў праграмы, загадзя не запатрабаваныя, найчасцей — асуджаныя на правал.

Колькі такіх праграм ужо прайшло праз наша жыццё, колькі народных грошай патрачана. І па-ранейшаму не фінансуюцца простыя, усім зразумелыя праграмы, якія не патрабуюць вялікіх капіталаўкладанняў, накіраваны непасрэдна на аздараўленне кожнага чалавека і якія хутка акупляюцца. Такія, як «Жывыя сокі», «Бялковае харчаванне». У першую чаргу трэба падтрымліваць тыя праграмы, што дапамагаюць выжыць чалавеку ва ўмовах Чарнобыля, а не тыя, якія не замінаюць згубнаму ўздзеянню радыяцыі на арганізм чалавека. Гэта ж так зразумела!

Складана ў адзін дзень змяніць у лепшы бок цяперашнюю сітуацыю. Але мы абавязаны навучыцца жыць (і выжыць) у такіх умовах, абараніць сябе ад фактараў шкоднага ўздзеяння навакольнага асяроддзя. Прырода ўсё дала нам для гэтага. У апошні час мы інтуітыўна адчуваем, што выратаванне наша толькі ў прыродзе і ўсё часцей звяртаемся да нетрадыцыйных метадаў лячэння і даўно забытых народных рэцэптаў нашых продкаў.

«Жывыя» сокі — адзін з самых старажытных сродкаў не толькі паўнацэннага харчавання, але і лячэння. Чаму перавага аддаецца сокам, а не садавіне і агародніне ў іх натуральным выглядзе?

Па-першае, для пераатраўлення расліннай клятчаткі патрабуецца ад 4 да 5 гадзін, перш чым пажыўныя рэчывы стануць здабыткам клетак і тканак арганізма. Сокі ж засвойваюцца на працягу 15—20 хвілін і амаль цалкам выкарыстоўваюцца для харчавання і аднаўлення клетак і тканак нашага арганізма.

Па-другое, сокі лічацца экалагічна чыстым прадуктам, бо ядавітыя хімічныя і радыёактыўныя спалучэнні застаюцца ў клятчатцы. У сваю чаргу сокі садзейнічаюць вывядзенню ядахімікатаў і радыенуклідаў з арганізма. У гэтым плане «жывыя» сокі з'яўляюцца самым даступным і эфектыўным сродкам ачышчэння арганізма.

Па-трэцяе, сокі жывых раслін — унікальныя па свайму біяхімічнаму складу. Толькі свежавыціснутыя сокі ўтрымліваюць арганічную «жывую» ваду, таму іх і называюць «жывымі» сокамі. Толькі яны ў сваім натуральным, фізіялагічным стане змяшчаюць вугляроды (глюкоза, цукроза, фруктоза і інш.), шмататамныя спірты (сарбіт, ксіліт, маніт), кіслоты (яблычная, лімонная, саліцылавая і інш.), дубільныя рэчывы, жыры, эфірныя алеі, мінеральныя рэчывы і мікраэлементы, поўны комплекс асноўных вітамінаў і, вядома ж, ферменты. Дзе жыццё — там ферменты! Вараная ежа не змяшчае біялагічна актыўных ферментаў і вітамінаў. Яна выкарыстоўваецца ў асноўным як «біяпаліва» для падтрымання нашага існавання, але яна не здольная аднаўляць і абнаўляць клеткі. Вось чаму развіваюцца хваробы, і чалавек не дажывае да свайго прыроднага (100-гадовага і вышэй) узросту. Суадносіны сырой і варанай ежы павінны быць збалансаванымі. У гэтым плане першымі памочнікамі для нас з'яўляюцца сырыя агародніна і садавіна, асабліва «жывыя» сокі з іх.

Дзякуючы унікальнаму складу і сваёй арганічнай аснове «жывыя» сокі для нас — гэта не толькі сховішча неабходных кампанентаў абмену, але і прыродныя антыаксіданты, г. зн. яны абараняюць наш арганізм ад пераакіслення, якое лічыцца асноўнай прычынай развіцця многіх хвароб.

Такім чынам, рэгулярнае ўжыванне «жывых» сокаў у звычайным харчаванні дазволіць папярэдзіць шэраг хвароб, узняць прыродныя абарончыя ўласцівасці арганізма і яго ўстойлівасць ва ўмовах радыяцыйна-хімічнага ўздзеяння. Выкарыстоўваць неабходна як агароднінныя, так і фруктовыя сокі. Першыя маюць больш лячэбных уласцівасцей, другія — лепш ачышчаюць арганізм ад шлакаў. Вясною, на фоне агульнага прабуджэння прыроды ўзмацняюцца працэсы рэгенерацыі і ў арганізме чалавека. Прымаючы «жывыя» сокі, мы дапамагаем сабе ў гэтую цяжкую пару года. Колькасць спажываемага сока можа быць рознай. Для прафілактычных мер хопіць адной шклянкі ў дзень (як дабаўка да звычайнага харчавання). Для лячэння штодзённая доза павялічваецца да 1,5 літра чыстага ці разбаўленага сока (напрыклад, бурачны сок ці сок чорнай рэдзькі разбаўляецца гатаванай вадой 1:1).

Выкарыстоўвайце ўсё, што ў вас ёсць у наяўнасці, і не праходзьце міма агароднінных магазінаў. Морква, бурак, капуста, бульба, земляная груша, чорная рэдзька, яблыкі — усё можна браць для прыгатавання «жывых» сокаў. І, вядома ж, першы падарунак прыроды — бярозавы сок.

**Святлана БЯСТУЖАВА,**
**кандыдат біялагічных навук.**



## Экалагічная этыка

**Часы мяняюцца... І не трэба шукаць экалагічных фрагментаў у Бібліі толькі таму, што рэлігія зноў стала моднай. Вучоныя Кубанскай народнай акадэміі прапануюць свой варыянт «Нагорнай пропаведзі» — экалагічнай, не прэтэндуючы, між іншым, ні на яго, ні на сваю кананізацыю.**

***1. Права на здаровае асяроддзе пражывання — важнейшае з правоў чалавека.***

**Без здаровага навакольнага асяроддзя няма і не можа быць здароўя. Без здароўя немагчыма плённа працаваць, працягваць свой род. У хворага народа няма будучыні.**

***2. Захоўванне і адраджэнне прыроды — кроўная справа кожнага.***

**Забяспечыць экалагічную бяспеку краіны намаганнямі толькі дзяржаўных арганізацый немагчыма з-за шырыні маштабаў экалагічнага бедства. Толькі ўсе разам мы здолеем зрабіць гэта.**

***3. Кожны можа і павінен авалодаць экалагічнай культурай.***

**Разуменне агульных працэсаў у прыродзе, прычын і вытокаў экалагічнай бяспекі, жыццёвай важнасці захоўвання біясферы. Толькі інфармаваны чалавек, які ведае рэальную сітуацыю на месцах і дзеючае заканадаўства, можа стаць паўнацэнным абаронцам прыроды, забяспечыць будучае краіны.**

***4. Памятаць аб адваротных схаваных сувязях у прыродзе.***

**Любое дзеянне чалавека, якое разбурае прыроду, вяртаецца да яго бедамі і хваробамі, катастрофамі і крызісамі, чалавек ёсць працяг прыроды і таму адносіцца да яе павінен так, як хацеў бы ён, каб адносіліся да яго.**

***5. Лес — апора жыцця на зямлі.***

**Адрадзіць народныя традыцыі па рытуальнай высадцы дрэў, ахове рэк і крыніц. Няхай экалагічныя суботнікі стануць нормай жыцця.**

***6. Не заставайцеся абыякавымі да губіцеляў прыроды.***

**Прымаць блізка да сэрца любую вестку аб яе бедах, як трывожную тэлеграму аб хваробе блізкага чалавека, выкарыстоўваць права на грамадскую экалагічную экспертызу, усе формы абароны экалагічных інтарэсаў насельніцтва, патрабаваць ад улад захавання прыродаахоўных законаў.**

***7. Усяляк падтрымліваць энтузіястаў-эколагаў і актывістаў экалагічнай грамадскасці.***

**Смялей вылучаць іх у мясцовыя і рэспубліканскія органы ўлады, абараняць ад мафіёзных структур, якія грабяць нашы прыродныя рэсурсы.**

***Ніхто нас не выратуе, калі мы самі сябе не выратуем!***

## Час узнаўлення

Перажываемы нашым грамадствам крызіс носіць усеагульны характар і мае глыбокія карані. На працягу ўсяго гістарычнага развіцця паміж чалавекам і навакольным асяроддзем усталёўваюцца рознабаковыя сувязі і адносіны, якія даюць магчымасць жыць чалавеку як прыроднай і грамадскай сутнасці. Аднак у гэтых сувязях і адносінах магчымы змяненні, пагражаючыя жыццю чалавека. Таму на працягу сваёй гісторыі людзі спрабавалі ў той ці іншай ступені шукаць згоду з навакольным асяроддзем, каб засцерагчы ад небяспекі ўмовы свайго існавання. Усталяванне такой згоды вызначалася ступенню гістарычнага развіцця грамадства і сацыяльнымі адносінамі ў ім.

За многія дзесяцігоддзі ў былым Савецкім Саюзе ўвогуле і на Беларусі ў прыватнасці створаны гіганцкі дзяржаўны механізм знішчэння прыроды. У яго аснове не шматвекавы экалагічны вопыт народа, а ведамасныя і вузкаасобасныя інтарэсы. Ён будуецца на экстэнсіўнай рэсурсаёмістай і шматадходнай тэхналогіі вытворчасці. На працягу дзесяцігоддзяў росту такой вытворчасці, прычым любой цаной, аддаваўся прыярытэт. На гэта накіроўваліся ўсе фізічныя і духоўныя сілы народа, асноўныя прыродныя рэсурсы.

Цяжка нават уявіць, колькі шкодных рэчываў закапана ў зямлю, спушчана ў ваду, выкінута ў атмасферу. Спецыялісты падлічылі, што на кожнага жыхара Беларусі прыпадае амаль 10 кілаграмаў таксічных рэчываў. Калі так будзе і далей, рэспубліка ператворыцца ў велізарную ядавітую звалку. Востра стаіць праблема перапрацоўкі другаснай сыравіны, бытавых адходаў, утылізацыі ядахімікатаў. Вядома, што пастановы дырэктыўных органаў былых СССР і БССР аб ахове прыроды неаднаразова прымаліся ў 70—80-я гады, але экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы ад іх не паляпшалася, а набывала ўсё больш катастрафічны характар. Сканцэнтраваўшы ў сваіх руках асноўныя фінансавыя сродкі, фонды капіталаўкладанняў, рабочую сілу і г. д., ведамствы праводзілі і працягваюць праводзіць антыпрыродную і антынародную палітыку. Прыкладаў драпежніцкіх адносін да прыроды можна прывесці мноства.

Усведамленне рэчаіснасці, нарэшце, дало штуршок навуковым даследаванням у галіне навакольнага асяроддзя. На Беларусі зараз складваецца шматпланавая сістэма адукацыі і выхавання моладзі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя. У яе праграме ўжо ў дзіцячым садку прадугледжаны раздзел «Азнаямленне з прыродай». На працягу года дзеці назіраюць за надвор'ем, даглядаюць акварыўмных рыбак, птушак, іншых жывёлін, вырошчваюць хатнія расліны, працуюць на прысядзібных участках.

Прыродаахоўная выхавальная работа, распачатая ў дашкольных установах, працягваецца і ў сярэдняй школе, галоўным чынам, у гуртках і секцыях. У школах рэспублікі заснавана звыш 20 музеяў прыроды, больш за 50 школьных заказнікаў. Тысячы школьнікаў з'яўляюцца членамі атрадаў па добраўпарадкаванню і азеляненню, «зялёных» і «блакітных» патрулёў, займаюцца ў юнацкабіялагічных гуртках, навуковых таварыствах. У Беларусі дзейнічае больш 30 станцый юных натуралістаў. У Мінску на базе Рэспубліканскай станцыі юных натуралістаў дзейнічае цэнтр экалагічнага выхавання школьнікаў, працуе малая лясная завочная акадэмія.

У вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах рэспублікі ўведзены спецыяльныя курсы па асновах экалогіі, аховы навакольнага асяроддзя з улікам спецыфікі будучай прафесіі. Пытанні рацыянальнага прыродакарыстання ўведзены ў курсавыя і дыпломныя работы.

Некаторыя вну рэспублікі — Белдзяржуніверсітэт, Беларускі тэхналагічны, Брэсцкі політэхнічны інстытуты і шэраг іншых пачалі падрыхтоўку спецыялістаў-эколагаў. У той жа час у некаторых інстытутах і тэхнікумах па многіх спецыяльнасцях абавязковыя навучальныя курсы экалагічнай накіраванасці складаюць усяго 18—36 акадэмічных гадзін. Для такіх курсаў навучальныя ўстановы недастаткова забяспечаны адпаведнай навукова-метадычнай літаратурай, тэхнічнымі сродкамі, лабараторным абсталяваннем.

З улікам абставін была распрацавана Рэспубліканская праграма па адукацыі ў галіне навакольнага асяроддзя на 1991—1995 гг. Яна прадугледжвае меры па ўвядзенню да 1995 г. абавязковых курсаў па асновах экалогіі і абароны навакольнага асяроддзя (з улікам прафесійных асаблівасцей) у сярэдняй школе, прафтэхвучылішчах, тэхнікумах і вну, у сістэме павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў.

У рэспубліцы склаўся багаты вопыт нефармальнай адукацыі і прапаганды экалагічных ведаў. Лектарамі таварыства «Веды» і Беларускага таварыства аховы прыроды штогод чытаецца больш 10 тыс. лекцый па прыродаахоўнай тэматыцы. Дзейнічаюць каля 150 народных універсітэтаў і лекторыяў. У апошні час з'явіліся экспрэс-універсітэты. Яны адкрыты для спецыялістаў разнастайных галін народнай гаспадаркі.

Акрамя таго, у Беларусі дзейнічаюць 3 асноўныя грамадскія прыродаахоўныя арганізацыі: Беларускае таварыства аховы прыроды, Беларускі экалагічны саюз і Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Галоўная іх задача — экалагічнае выхаванне і адукацыя падлеткаў і дарослага насельніцтва рэспублікі, арганізацыя актыўнага ўдзелу іх у падтрымцы здаровага экалагічнага асяроддзя, прыцягненне ўсяго насельніцтва да практычных дзеянняў па зберажэнню і рацыянальнаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў шляхам стварэння экалагічных сцяжынак, школьных лясніцтваў, «зялёных» і «блакітных» патрулёў, клубаў аматараў прыроды, правядзення конкурсаў, выдання плакатаў, выпуску фільмаў, вытворчасці экалагічна чыстай прадукцыі.

Але ўсяго гэтага мала. У апошні час падзеі разгортваюцца імкліва, і краіна рухаецца да мяжы, за якой казаць аб нейкім кантралюемым экалагічным працэсе будзе ўжо бессэнсоўна. Цяпер размова павінна ісці аб неадкладнай выпрацоўцы пазіцыі, дазваляючай убачыць усю меру нацыянальнага экалагічнага бедства і магчымыя шляхі яго змякчэння. Яна павінна дапамагчы ператварыць у адзінае цэлае палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя аспекты нашай дзейнасці, бо іх падзел немагчымы. Неабходна адзіная сістэма ўяўлення і дзеянняў, якая з'яўлялася б канцэпцыяй выжывання.

**С. ТАЛАПІНА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

КАТАКЛІЗМЫ

## ДЫК АД ЧАГО Ж ВЫМЕРЛІ ДЫНАЗАЎРЫ?

Усемагчымыя гіпотэзы, якія тлумачаць знікненне дыназаўраў у канцы мелавога перыяду рэзкім, катастрафічным змяненнем экалагічнай абстаноўкі на планеце, ніколі да канца не задавальнялі палеантолагаў. Справа ў тым, што гэтыя дагістарычныя жывёлы вымiралі паступова на працягу вялікага адрэзку часу.

Новую гіпотэзу прадставілі чацвёра геолагаў і палеантолагаў з розных універсітэтаў ЗША на гадавым сходзе Амерыканскага геалагічнага таварыства ў Бостане. Іх меркаванні грунтуюцца на вымярэннях канцэнтрацыі кіслароду ў мікраскапічных пузырках паветра, закансерваваных у янтары часоў дыназаўраў. Аказалася, што ў канцы мелавога перыяду, на працягу двух мільёнаў гадоў, узровень кіслароду ў паветры панізіўся з 35 да 28 працэнтаў, а зараз ён складае 21 працэнт. Аднак у адрозненні ад дыназаўраў сучасныя жывёлы эвалюцыяніравалі якраз у такой атмасферы. З другога боку, напрыклад, адзін з самых вялікіх яшчараў — апатазаўр — меў ноздры памерам як у каня. А калі ўлічыць, што дыяфрагма, якая дапамагае паветру праходзіць праз лёгкія, з'явілася толькі ў млекакормячых, то падобныя змяненні ў атмасферы былі для гіганцкіх яшчараў з іх інтэнсіўным энергаабменам, безумоўна, згубныя.

*ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?*

## ДАМОВІМСЯ АБ ТЭРМІНАЛОГІІ

З 4 па 6 мая сёлета ў Мінску ў Доме настаўніка адбылася першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». Яе правялі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны разам з Міністэрствам культуры і друку і Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, Акадэміяй навук Беларусі і выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя». У працы канферэнцыі ўзялі ўдзел 147 навукоўцаў, педагогаў, іншых зацікаўленых спецыялістаў з розных гарадоў Беларусі, а таксама замежныя госці. Дэлегаты рэпрэзентавалі ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны і практычна ўсе важнейшыя галіны навукі, тэхнікі, грамадскай дзейнасці, у тым ліку рэлігійна-канфесійнай, эканамічнай, спартыўнай і іншых сфер, дзе ідзе інтэнсіўны працэс тэрмінаўпарадкавання і тэрмінатворчасці.

Уступнае слова на канферэнцыі зрабіў Ніл Гілевіч. З прывітаннямі да ўдзельнікаў выступілі Анатоль Бутэвіч, Васіль Стражаў, Радзім Гарэцкі, Адам Мальдзіс, Барыс Сачанка. Былі заслуханы і абмеркаваны пленарныя навуковыя даклады прынцыповага і канцэптуальнага характару, зробленыя Любоўю Антанюк, Вінцуком Вячоркам, Генадзем Цыхуном. Змястоўнымі былі і шматлікія спецыяльныя даклады і спавешчанні на ўсіх трох секцыях — гуманітарных, прыродазнаўчых і фізіка-тэхнічных навук. Усяго заслухана больш 80 дакладаў і спавешчанняў, у якіх разгледжаны практычны досвед айчыннай тэрмінатворчай дзейнасці, пытанні распрацоўкі беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, выкладання спецыяльных дысцыплін на беларускай мове, укладання рознагаліновых слоўнікаў.

Абмеркаванне праходзіла нефармальна, актыўна і плённа. Удзельнікі секцый незалежна адна ад адной прыйшлі да высновы (і гэта ўхвалена на заключным пленарным пасяджэнні) аб правамернасці і неабходнасці намаганняў, скіраваных на актыўнае засваенне тэрмінатворчай спадчыны 20-х гадоў, на выкарыстанне лексічных і марфалагічных сродкаў беларускай мовы ў распрацоўцы новай тэрміналогіі поруч з шырокім ужываннем замацаваных у сусветнай навуковай практыцы інтэрнацыянальных слоў.

Беларуская навуковая тэрмінатворчасць мае глыбокія і еўрапейскіх маштабаў гістарычныя карані. Аднак яна неаднойчы і надоўга перапынялася па палітычных матывах. Асабліва гэта адчувальна ў наш век актыўнага навукова-тэхнічнага прагрэсу. І вось апошні 60-гадовы перыяд ад вядомай антырэформы мовы 1933 г. далёка назад адкінуў Беларусь у сферы нацыянальнай навукова-тэхнічнай тэрмінатворчасці і тэрмінаграфіі. Фактычна гэту працу трэба аднаўляць, а затым развіваць, кантактуючы з міжнароднымі тэрміналагічнымі арганізацыямі.

Мэтай першай нацыянальнай тэрміналагічнай канферэнцыі было менавіта рэвізаванне і аналіз усёй тэрмінатворчай і тэрмінаграфічнай справы на Беларусі. Яна дасягнута. Канферэнцыя даручыла рэдакцыйнай камісіі аргкамітэта разам з Тэрміналагічнай камісіяй ТБМ імя Ф. Скарыны абагульніць станоўчы досвед творчых калектываў і асоб у галіне навуковай тэрміналогіі дзеля вызначэння адзіных прынцыпаў і падыходаў да распрацоўкі і ўпарадкавання навукова-тэрміналагічнай лексікі, а таксама дзеля шырокага азнаямлення з гэтым досведам зацікаўленай навуковай і педагагічнай грамадскасці.

**Язэп СТАПАНОВІЧ,**
**старшыня аргкамітэта канферэнцыі, кандыдат біялагічных навук.**



Мінск, ускраіна. Фота М. Будчаніна.

# Навука ў былым Савецкім Саюзе яшчэ не зусім памерла, але большасць вучоных неўзабаве застанецца без працы

Сакавік быў шэрым месяцам у Маскве, але ён прынёс вучоным дзве добрыя навіны. Папершае, фінансіст і філантроп Джордж Сорас прыбыў у горад, каб назваць імёны атрымаўшых гранты Міжнароднага навуковага фонду (МНФ) — арганізацыі, якую ён заснаваў для падтрымання фундаментальных даследаванняў у былым СССР. Агульная сума грантаў — 32 мільёны долараў. Падругое, адкрыўся Міжнародны цэнтр навукі і тэхналогіі (МЦНТ), якога так доўга чакалі. Ён прадаставіў 11,6 мільёна долараў на падтрымку лепшых праектаў па канверсіі.

Для вучоных, што трапілі ў вір постсавецкай эканомікі, гранты ўзніклі як боская ласка. У Расіі зарплата навукоўцаў упала да паловы ад сярэдняй па краіне. Выплаты рабіліся спарадычна альбо ўвогуле не рабіліся. Некаторыя лабараторыі не маглі дазволіць сабе мець сродкі на аплату цяпла і святла, іншыя працавалі толькі базавым саставам, пакуль астатняя частка персаналу працавала вадзіцелямі, перакладчыкамі альбо пакаёўкамі. Многія вучоныя проста пакінулі сваю краіну.

Розныя прафесійныя таварыствы ЗША і Нацыянальны навуковы фонд аказвалі невялікую дапамогу, пасылаючы часопісы і абсталяванне, даючы даследчыя стыпендыі запрошаным вучоным. Аднак два гады пасля заснавання праграма Сораса застаецца ўсё яшчэ найбуйнейшай. У сакавіку 2120 даследчых калектываў з 12 краін — усяго 11 тысяч чалавек — атрымалі гранты МНФ у памеры ад 5 да 100 тысяч долараў.

Пераможцы конкурсу на атрыманне грантаў даюць уяўленне аб сучасным стане фундаментальнай навукі ў былым СССР. Традыцыйна моцныя савецкія калектывы ў галінах такіх, як матэматыка, тэарэтычная фізіка і хімія, існуюць няблага. Таксама няблага навукоўцам і ў расійскай сталіцы: 58 працэнтаў каманд-пераможцаў былі з Масквы, і толькі 17 працэнтаў — з іншых частак Расіі. Найбольшы працэнт удалых заявак далі Эстонія, Латвія і Літва.

Здольнасці балтыйскіх вучоных пісаць дабраякасныя заяўкі на гранты могуць неўзабаве быць запатрабаванымі. Паколькі краіны былога Саюза імкнуцца зменшыць расходы і памеры навуковых устаноў, атрыманых у спадчыну, многія адміністратары прыглядаюцца да заходніх мадэлей фінансавання, каб зрабіць навуку больш эфектыўнай і менш затратнай. Але рэформа навукі, падобная да «шокавай тэрапіі» у эканоміцы, выклікала жорсткае супраціўленне, і таму праграмы дапамогі расійскім вучоным павінны з засцярогай праходзіць праз палітычныя «мінныя палі».

У Расіі канфлікт з акадэміяй, наследніцай АН СССР, паглыбляюць рэфарматары, вядзёныя міністрам навукі Барысам Салтыковым. На працягу двух гадоў з пераменным поспехам вялася барацьба з дзецішчам Б. Салтыкова — новым фондам, які акадэмія разглядае як небяспечнага праціўніка.

Заходняя праграма дапамогі расійскай навуцы палічыла за лепшае трымацца па-за схваткай, маючы справу непасрэдна з вучонымі і іх інстытутамі і абыходзячы афіцыйныя каналы як толькі магчыма. Некаторым — у тым ліку і Міжнароднаму цэнтру навукі і тэхналогіі — давялося павыкручвацца, знаходзячыся пад непрыяцельскім абстрэлам.

ЗША і Расія заснавалі МЦНТ у пачатку 1992 г. як нейкае «чысцілішча», якое б спрыяла вучоным былога Саюза, занятым у ВПК, пераключацца на цывільныя даследаванні. Але кансерватары заблакіравалі яго зацверджанне ў расійскім парламенце. У верасні 1993 г. мы даведаліся з часопіса «Саенс», што МЦНТ спыніў існаванне.

Тым не менш, офіс МЦНТ у Маскве спакойна працягваў фарміраваць штат, устанаўліваў кантакты і ажыццяўляў прапановы. Настойлівасць сябе апраўдала. У сакавіку гэтага года адбыўся сход МЦНТ, на якім, ігнаруючы парламент, было адобрана фінансаванне 23 праектаў у такіх галінах, як ядзерная бяспека, лазерная тэхналогія і маніторынг навакольнага асяроддзя.

Ніхто не зможа прадказаць, колькі будзе доўжыцца барацьба за расійскую навуку, хто ў ёй акажацца «апошні». Але адно несумненна: горшае наперадзе. Салтыкоў заявіў, што праз некалькі гадоў 90 працэнтаў расійскіх вучоных застанецца без працы. Нават план Маршала для Расіі не паўплываў бы на той цяжкі факт, што выратаванне расійскай навукі азначае смяротны прыгавор для большай яе часткі.

«Сумна, што рускія робяць недастаткова многа для выратавання саміх сябе,— сказаў Харлі Бальцэр, дырэктар адукацыйных праграм расійскага рэгіёну Універсітэта Джорджтаўна і былы дырэктар МНФ.— Яны павінны прызнаць, што не змогуць трымацца, толькі падзяляючы тое, што засталося ад пірага. На жаль, гэта ўлада, здаецца, таксама няздольная рабіць жорсткі выбар».

**Роберт Дж. КУНЦ**
**(мал.).**
**(«Саенсіз», май-чэрвень 1994 г.).**

*ГЭТА ЦІКАВА*

## Свойскім жывёлінам супрацьпаказана

*Свойскім жывёлам патрэбна ахова ад уздзеяння сонечных праменняў. Ветурачы ўстрывожаны тым, што ў Аўстраліі няспынна расце колькасць жывёлы, паражонай ракам скуры. Так, у адну з ветлячэбніц Сіднея штогод паступае 500 кошак, хворых на рак скуры, а толькі тры гады таму іх было зусім мала.*

*Больш за ўсіх падвяргаюцца небяспецы захворвання жывёліны еўрапейскага паходжання з светлай поўсцю, бо ў іх, у адрозненне ад аўстралійскіх, няма ахоўнага пігмента.*

*Ветэрынарныя ўрачы рэкамендуюць трымаць свойскіх жывёлін у памяшканнях з 11 да 15 гадзін, калі ўльтрафіялетавае выпраменьванне найбольш інтэнсіўнае.*

## Універсальная сістэма

**Камп'ютэрная сістэма аналізу выяў, распрацаваная ў Інстытуце сярэдневяковай і сучаснай гісторыі Аўстрыйскай АН, стварае унікальныя магчымасці для вывучэння, параўнання і ацэнкі выяўленчых гістарычных дакументаў і крыніц. Прызначаная менавіта для гістарычных навук, гэтая сістэма простая і зручная ў карыстанні, даступна ўсім гуманітарным інстытутам. У той жа час яна якасна пераўзыходзіць любую з ужо існуючых сістэм: дазваляе аналізаваць і дакументаваць вялікія пласты гістарычных матэрыялаў, такіх, як фрэскі, карціны, кніжныя мініяцюры, манеты і г.д. На падставе апісання выяў спецыяліст можа падрабязна даследаваць любую дэталь, суаднесці тэкстуальныя і графічныя даныя (не губляючы агульнага погляду і сувязей), што маецца ва ўсім масіве інфармацыі. Даследчык можа стварыць уласны набор неабходных яму для работы выяў, запісаных у лічбавай форме. Сістэма дазваляе таксама наглядна маніпуляваць з выявамі, рэканструяваць іх, мяняць пункты гледжання і г. д., што дае зусім нечаканыя магчымасці для інтэрпрэтацыі альбо атрыбуцыі крыніц.**

**(Па старонках замежнага друку).**

## Рэлікт і сімвал Белавежы ў небяспецы

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).**

колькасці жывёлін. Таварыства пачало нават выдаваць радаводную кнігу з паказаннем нумара і атрыманай мянушкі зубра.

Па паходжанню ўсе зубры, якія захаваліся, былі падзелены на дзве разнавіднасці: белавежскія і каўказска-белавежскія. Першыя — чыстакроўная жывёла, вывезеная з пушчы, і так званыя плескія зубры, якія разводзілі ў княжацкім маёнтку «Плес» ва Усходняй Германіі. Другія ж раней у прыродзе ніколі не існавалі і атрыманы ў выніку скрыжавання.

Пачатак адраджэння зубра ў Белавежы паклалі дзве белавежскія самкі і каўказска-белавежскі самец, а потым яшчэ адзін белавежскі самец. Усе яны завезены з Германіі. Да 1941 г. у пушчы было ўжо 19 асобін. Падчас другой сусветнай вайны частка жывёлін загінула.

Цяперашні статак, які адраджаўся пасля вайны, мае больш крыві белавежскага, чым каўказска-белавежскага падвіду. У працэсе рэакліматызацыі зуброў у Белавежскай пушчы вызначаюцца два асноўныя перыяды развядзення: аднаўленне віду ў цэлым, незалежна ад паходжання, і падвіду чыстапародных белавежскіх зуброў, продкі якіх насялялі лясы Белавежы ў далёкай мінуўшчыне.

На Зямлі цяпер 2300 асобін ляснога велікана, з іх на беларускім баку Белавежскай пушчы — 295, на польскім — 208. Падлічана, што для нармальнай жыццядзейнасці, каб яна не наносіла ўрону ўсёй белавежскай экасістэме, колькасць віду не павінна перавышаць 200 асобін. Акрамя пушчы, 28 жывёлін знаходзіцца ў Бярэзінскім, яшчэ 20 — у Прыпяцкім запаведніках. Зусім нядаўна 15 зуброў перасялілі ў валожынскія лясы.

За першы год ажыццяўлення праекта «Захоўванне біяразнастайнасці лясоў» атрыманы новыя навуковыя дадзеныя пра стан папуляцыі зубра ў Беларусі. Заолагі і ветэрынары ўжо сёння бачаць некаторыя шляхі выйсця са складанага становішча.

**У. ТОЛКАЧ,**
**тэхнічны дырэктар праекта, кандыдат сельскагаспадарчых навук.**
**П. ПАРФЁНАЎ,**
**сакратар праграмы МАВ ЮНЕСКА праекта, кандыдат біялагічных навук.**

*«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»*

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

В. а. рэдактара
Раальд ЛЕВІН.

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 25.05.94 г.
Зак. 1031.
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.